# ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК

ДА ГАЗЭТЫ „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ"

№ 19 | 25 лістапада 1928 г. | № 19


ЗЬМЕСТ



ІЛ. БАРАШКА.

## Да новых дасягненьняў.

### (5 год „Маладняка").

Каляндарны лісьцік нясе нам вестку: «Маладняк»—гэта ўсебеларускае аб'яднаньне паэтаў і пісьменьнікаў. Стварылася яно ўвосень 1923 году з маладых рэвалюцыйных паэтаў з пісьменьнікам Міхасём Чаротам на чале. Маладыя хлопцы шчыра ўзяліся за працу, пачалі выяўляць новыя літаратурныя сілы, убіраць іх у сваю арганізацыю і дапамагаць іх разьвіцьцю. Адначасна яны працавалі над сабою, разьвівалі свае мастацкія здольнасьці. „Маладняк" стаў расьці, стаў захапляць усё большыя і большыя масы літаратурнай моладзі. Стаў вылучаць з сваіх шэрагаў такіх таленавітых пісьменьнікаў і паэтаў, якіх ставяць ня ніжэй сучасных пісьменьнікаў іншых краін...

І сапраўды. На нашых вачох узьнікла цэлая пляяда творчых сіл беларускай літаратуры, узгадаваная Кастрычнікам. Вельмі характэрная і цікавая ў гісторыі беларускай культуры зьява. Адроджаная Беларусь рабочых і сялян вылучыла з працоўных мас творцаў новай, беларускай літаратуры.

Пяць слаўных, цяжкіх, але затое плённых гадоў новай беларускай літаратуры! Аб'яднаньне «Маладняк», сталася тэй кузьняй, у якой і вакол якой стварылася новая беларуская літаратура, тым асяродкам, вакол якога выявіліся новыя творчыя сілы,—таму юбілей «Маладняка»—гэта не юбілей якой-небудзь абасобленай арганізацыі,—гэта сьвята ўсяе новае беларускае літаратуры, гэта сьвята ўсіх працоўных Беларусі, якія, пад сьцягам камуністычнай партыі, у 1919 годзе абвясьцілі незалежную Савецкую Беларусь, якія на працягу далейшых год творчай працы пад сьцягам камунізму стварылі і ствараюць беларускую пралетарскую культуру, працуюць над адраджэньнем і рэканструкцыяй народнай гаспадаркі.

За час свайго існаваньня «Маладняк» перажыў некалькі пэрыядаў.

Першы пэрыяд выразна ахарактарызаваны ў дэклярацыі «Маладняка» (лістапад, 1926 год), наступнымі радкамі: «Утварэньне „Маладняка" і першы пэрыяд яго дзейнасьці можна назваць пэрыядам літаратурнае рэвалюцыі, адным з момантаў перанясеньня ў сфэры ідэалёгіі тае непасрэднае барацьбы, якую ў палітычных і эканамічных сфэрах вялі рабочыя і сяляне Беларусі ў эпоху ваеннага камунізму. Маладая літаратура, працятая рэвалюцыйна клясавай сьвядомасьцю, поўная жывых адгалоскаў Кастрычнікавае завірухі, дала адкрыты бой рэштам нацыянальна-народніцкіх традыцый, у асноўным страціўшых пад сабою цьвёрдую глебу. Гэта быў бой за канчатковае ўкараненьня ў сьвет літаратурнага мастацтва палітычнае ідэалёгіі пралетарыяту».

Літаратурная рэвалюцыя першага пэрыяду існаваньня «Маладняка» абудзіла да творчай працы соткі адзінак в беларускай працоўнай моладзі. Літаратурны рух у першы пэрыяд «Маладняка» дасягнуў нячуваных памераў. У гэтым адна з заслуг „Маладняка" ў першыя гады існаваньня.

Другі пэрыяд «Маладняка», пэрыяд так званага «мірнага будаўніцтва» (лістапад 1925 год—сьнежань 1927 г.), характэрны багацьцем самых найразнастайнейшых зьяў у жыцьці «Маладняка». Пачынаючы ад 1-га ўсебеларускага зьезду, гэты пэрыяд, паперш ае, азначаецца ўзростам маладнякоўскае прадукцыі, заваёвай чытача, азначаецца дыфэрэнцыяцыяй складу аб'яднаньня (што зусім натуральна пры ўзросьце клясавае сьвядомасьці і працэсе дыфэрэнцыяцыі сярод насельніцтва), адыходам ад „Маладняка" групы „Узвышша", творчым узростам так званага „другога прызыву" сяброў аб'яднаньня, якія ўліліся ў «Маладняк» на працягу 1925-26 г., зацяжным крызісам і адыходу ад кіраўніцтва кіруючай часткі „Маладняка".

Творча ўзросшы, акрыяўшы ў шэрагах «Маладняка», выявіўшы свае творчыя здольнасьці, пісьменьнікі-маладнякоўцы «другога прызыву» не дапусьцілі аб'яднаньне да вынікаў арганізацыйнага крызісу. «Маладняк» і надалей застаўся аб'яднаньнем беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, застаўся працягваць вызначаныя раней задачы стварэньня беларускай пралетарскай літаратуры, зьяўляючыся адным з яе атрадаў.

Пачатак трэцяга, сучаснага пэрыяду «Маладняка» адносіцца да 9 сьнежня 1927 г., калі на сходзе цэнтральнай менскай філіі «Маладняка» было абрана часовае кіраўніцтва, замест старога ЦБ, якое фактычна адыйшло ад

аб'яднаньня, стварыўшы разам са старымі беларускімі пісьменьнікамі літаратурнае аб'яднаньне «Полымя» (студзень 1928 г.).

Лютаўская канфэрэнцыя 1928 году ўжо адзначыла ліквідацыю арганізацыйнага крызісу, вызначыла далейшыя шляхі „Маладняка“.

«Маладняк» з поўнай упэўненасьцю, што будучына за „Маладняком“, распачаў новы перыяд свайго існаваньня ўжо без старэйшых маладнякоўцаў. Арганізацыя пачала зноў, як і ў 1924-25 г. праводзіць вялізэзную масавую працу, узялася за пяро і за вучобу. Лёзунг самакрытыкі прынёс шмат карысьці сучасным маладнякоўцам—яшчэ выразьней акрэсьліліся задачы пралетарскае літаратуры, яшчэ выразьней акрэсьліліся вымаганьні ад пісьменьніка, які жадае быць пралетарскім і ў умовах Савецкае Беларусі працаваць на карысьць працоўных мас.

За час з лютага па лістапад г. г. нельга ня спыніцца на некаторых зьявах у жыцьці «Маладняка», якія бязумоўна маюць цікавасьць для ўсіх працоўных Савецкай Беларусі.

Папершае, «Маладняк» уступіў ў шэрагі Ўсесаюзнага Аб'яднаньня Асацыяцый Пралетарскіх Пісьменьнікаў, гэтым падкрэсьліўшы сваю лінію ў справе стварэньня беларускай пралетарскай літаратуры, як аднаго з атрадаў літаратуры народаў СССР.

Уваходам у ВААПП «Маладняк» прарваў фронт недааценкі ролі расейскай пралетарскай літаратуры, украінскай пралетарскай літаратуры, саюзу братніх літаратур, фронт сваесаблівых лёйяльных адносін.

«Маладняк», знаходзячыся ў шэрагах пралетарскай літаратуры народаў СССР, будзе змагацца за маладую беларускую пралетарскую літаратуру, у цеснай сувязі з пралетлітаратурай народаў СССР.

Падругое, «Маладняк» аб'яднаў у сабе ўсе творчыя маладыя сілы беларускай літаратуры. Існаваўшыя групы „Праблiск“ і „Літаратурная Камуна“ (большасьць) зьліліся з «Маладняком», ня маючы разыходзін у пункце погляду на стварэньне беларускай пралетарскай літаратуры, прызнаўшы лінію «Маладняка», як шырокай літаратурнай арганізацыі, адзіна правільнай у ўмовах фармаваньня новай беларускай пралетарскай літаратуры.

Патрэцяе, хоць гэта тэма асобнага артыкулу, «Маладняк» за апошні год узрос якасна, на вышэйшую ступень сягнулі маладнякоўцы ў галіне фармальна-мастацкіх дасягненьняў сваёй творчасьці. Літаратурная прадукцыя ўзрасла,—варта пераглядзець нашу пэрыодыку, каб упэўніцца, што немалы процант творчасьці маладнякоўцаў займае ў нашых выданьнях у адносінах да ўсяе прадукцыі сучаснай беларускай літаратуры.

І, нарэшце, пачацьвертае, асноўная маса маладнякоўцаў у сучасны момант вучыцца, набывае веды гэтулькі неабходныя для цяжкай, адказнай і сур'ёзнай працы пралетарскага пісьменьніка. Не аднаму акадэмізму аддаюцца маладнякоўцы. «Маладняк» яшчэ вучыцца і жыцьцю, удзельнічаючы ў грамадзкай працы, працуючы пад сьцягам камуністычнае партыі і ў саюзе з камсамолам.

З упэўненасьцю ў шырокі росквіт беларускай пралетарскай літаратуры, працуючы ў якасьці аднаго з яе перадавых атрадаў, у саюзе з братнімі літаратурнымі аб'яднаньнямі Савецкай Беларусі, захоўваючы і ў будучыне сваё імя «Маладняка», які зьяўляецца сынонімам новага, маладога,—аб'яднаньне пераступае пяты парог па шляху да далейшых дасягненьняў, маючы традыцыі змаганьня, атрымаўшы навуку ад папярэдніх памылак.

Іграйце-ж песьню трубачы! Працягвайце пець тую песьню перамогі працоўных, якая прагучэла упяршыню ў «Босых на вогнішчы» арганізатара «Маладняка»—Міхася Чарота.

Да новых дасягненьняў!

---

**М. ХВЕДАРОВІЧ.**

# ПРА ВОЎКА.

Так, жыцьцё бяз меры шпарка крочыць,
І пад бег яго і кругаверць.
Небясьпека часта відавочна,
Мы-ж яе ня хочам зразумець.

І тады пакуль мы балагурым,
Покуль кожны аглянецца з нас,
Пралязае воўк ў авечай скуры,
Ён пралазіць хітра на парнас.

І, прайшоўшы спраўна небясьпекі,
Гэты хітры і ліхі дзялец
Панідае часта ў калеках
Ціхіх і даверлівых авец.

Воўка кормяць, бязумоўна, ногі,
Крытыку-ж, бясспрэчна, важан гэст...
Так, бывае воўк чацьвераногі,
Бязумоўна-ж і двуногі ёсьць.

Мы яму такому часта верым,
А давер'я важна у жыцьці.
І вядзе ён праз такія дзьверы,
Што назад праз іх ўжо ня прыйсьці.

І тады на справе ўсё-ж ня бачым,
Як праўдзіва мудрасьць раньніх слоў.
Называем часта няўдачнай,
Кажам часта
— Не павязло.

Часта, часта мы не разумеем,
Як давер'е лёгка скарыстаць,
І, паверыўшы такому дабрадзею,
Можна спатыкнуцца
І ня ўстаць.

І тады пад шум і балагуры,
Гэты хітры і названы госьць
Апранае ўжо другія скуры,
І ў зубах другую шчырыць злосьць.

Я-ж хачу падняць цяпер трывогу,
І званіць хачу ва ўсе званы,
Што пралез к нам воўк цяпер двуногі
Шляхам падхалімства і маны.

Воўка кормяць, бязумоўна, ногі,
Крытыку-ж, бясспрэчна, важан гэст.
Так, бывае воўк чацьвераногі,
Бязумоўна-ж і двуногі ёсьць.

Менск,
30 кастрычніка 1928 г.

---

**СЯРГЕЙ ФАМІН.**

# З нізкі вершаў „Дымнае жыта“.

Што такое, куды гэта гожа?—
Разыйшліся шляхі... Ураз...
...Цалавала Марыля Сярожу
У дымных жытах апошні раз.

На шляхох дагаралі бярозы,
І з зялёнага полымя—дым...
Можа шлях той травою зарос,
Мо' пажар затушылі гады.

На была-б ты такой прыгожай,
Хіба-ж стаў-бы у нараньні згадаць!—
Цалаваў Марылю Сярожа
У дымных жытах апошні раз.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Адыходзіў у далі поезд,
Праплываў за вагонам вагон...
...Усё што меў, я сваё дарагое
Правадзіў пад руку на пэрон.

І была так сьцюдзена ноч,
І такая шумела зіма..
І да раньня не ведаўся з сном,
Ня чытаўся адчынены Маркс.

Ціха плакаў раяль за сьцяною,
Мары несьліся ціха ўздагон...
... Усё, што меў, я свае дарагое
Правадзіў пад руку на пэрон.

1927 г.

ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ.

# ЦЫГАНКА.

*Васілю Кавалю—поэту зямлі.*

За вокнамі сьпевы,
За вокнамі вечар
І радасьць зямлі і вясны чалавечай,
За вокнамі сьмех.
Што-ж марыш, цыганка,
На месяц,
На зоры?..
Ў цыганкі ў душы і сумненьне
І гора.
Цыганка ў цьме...
У цьме ёй прысьнілася стэп і дарога,
Блуканьняў і сум,
І любоў,
І трывога.
Прачнулася боль...

Там дзесьці любімы,
Як бронзавы бог,
Сьпявае пад струны цыганскіх дарог,
Сьпявае любоў...

Быць можа цяпер пры настры на заканце
Яе ўспамінае
І бацька,
І маці,
І молянца доўга і палка ўдвох,
Каб лёс іх дачку маладую зьберог.

І доўга сумуе цыганка ўвечар
Аб дружбе жывой
І любві чалавечай...
І сьніцца ёй стэп
І зялёны прастор...

І месяц над стэпам ўстае, бы касьцёр...
Што карты?..
Што грошы і крыўда і боль?..
Шырокіх палёў цёмна-сіняя столь
І погляд
Любімых цыганскіх вачэй,
Што ночы цямней
І што раньня ярчэй,
Яе павядуць за далёкі курган
На песьні
І гульні любімых цыган.

* * *

Будзе вечар—
Юнак чорнабровы
Над палямі, над ёй, над дарогай
Хмурыць сумна
Зялёныя бровы,
Сыпаць у сэрца любоў
І трывогу.

І расказа цыганка цыганам,
А ў цыганкі у сэрцы агонь,
Што учора
На сонечным ранку
Ёй сказалі пра новы закон:

Будуць хутка ў іх хаты
І нівы,
Залатая таемнасьць зямлі...
Будзе бераг краіны шчасьлівай
Усіх прышоўшых з блуканьня
Хмяліць...

* * *

За вокнамі-ж сьпевы,
За вокнамі вечар
І радасьць зямлі і вясны чалавечай...
Так марыць цыганка...
Так нікне туман...
Так просіцца сэрца за дальні курган.

1928 г.

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ.

# Маладосьць Андрэя Каралёнка.

*(Адрывак).*

Увесь пройдзены дзень Андрэй хадзіў пусты і стомлены; адчуваў, што нечага не хапала. К таму-ж у гэтыя калядныя дні ніхто нічога не рабіў, а аднаму не хацелася брацца за якуюнебудзь работу. Матка даведалася аб учарашняй бойцы сына з Гарбачом. Яна ня стала журыць, як думаў Андрэй, толькі папрасіла:

— Жаніўся-б ты ўжо, сынок...

І калі Андрэй нічога не сказаў, яна яшчэ больш сумна стала прасіць:

— Цяжка мне аднэй... А буйства ў цябе гэтае ад маладосьці... Паслухайся мяне, сынок...

— Эх, перастань ты ўжо хныкаць... Галава ў мяне баліць...

Вышаў на вуліцу, дзе абдало яго ядравым марозным паветрам. Стаяў сярод вуліцы і ня ведаў куды ісьці. Потым усё-ж пайшоў па вуліцы. І спадабаўся яму скрып мяккага сьнегу пад новымі ботамі. Мімаходам завярнуў к Гарасю. Нізка прыгнуўшы сьпіну, аж прыліпла к сьпіне кашуля, Гарась ладзіў паламаную ўчора гармонь і лаяў учарашнюю вячорку і Гарбача. Далей, як і заўсёды, стаў жартаваць і насьвістваць, што ажно развесяліў Андрэя.

Яны смачна курылі папяросы, недакураныя ўчора, з-за якіх вышла ўся бяда. Моцна напрацаваўшыся, Гарась разьняў сьпіну і з трэскам у суставах заламіў рукі..

— Гатова,—сказаў ён на гармонік.— Патрабую грац̌ь, чорт яе пабяры!...

Стаў пасярод хаты, закінуў назад русую галаву, удала прытопнуў нагою і расьцягнуў гармонік. Разьліў па хаце глухія і звонкія зыкі.

— Добра, чорт пабяры!

Ад задаваленьня ён разьзявіў рот у шырокую ўхмылку, сеў побач з Андрэем і ласкава пахлопаў па плячы.

— Як, Андруша, думаеш? Плюй на ўсё, брат. Каця-ж згодна. Вось і пойдзем сёньня. Нечага адкладаць справу ў доўгі мех...

Андрэй пакрывіўся.

— Яно-й праўда... Не магу болей жыць... Будзь у мяне сватам, Гарась.

— Ну, ня маніш?Яй-права пойдзем. Каб ты згарэў. Давай паедзем лепш, форсу больш. Запражы каня, дык мы так пракацім, што толькі трымайся...

Узрадаваны Гарась дастаў бутэльку адгону. Андрэй схадзіў да хаты і падрыхтаваў што трэба. Даведаўшыся аб усім, маці сама стала бегаць і клапаціцца...

А марозны калядны вечар глядзеў у вокны.

З гармонікам цераз плячо ўваліўся ў хату Гарась. Беражліва паставіў гармонік на паліцу і ўсё дзівіўся на я блісючыя клапаны.

— Ну, сыграю-ж на тваім вясельлі, Андруша.

— Дай бог, дзеткі, каб гэта збылося.

— Ты ўжо, браце, пастарайся.

— Ды як яшчэ пастараюся—ха-ха-ха! Выхадзі, радная—і ўсё...

Андрэй хутка запрог каня і падаслаў у санёх на сене посьцілку.

Маці незадаволена адвяла ў бок сына.

— Людзі добрыя баруць сватоў старых. Паважней яно выходзіць. Круцяцю такому, як Гарась, не павераць яшчэ. А Нічыпар-жа чалавек стары. Ня любіць ён калі што якое.

— Ат, кін ты, маці!

Андрэй узяў у рукі вяровачныя лейцы, сярдзіта шмаргануў імі, і конь падняў галаву кверху. А Гарась выцягнуў ногі на посьцілцы, поўны адказнасьці за выпаўненьне такіх абавязкаў, як быць сватам. Сані скрыгнуліся, разануліся з размаху ў сьнег. Андрэй хвестануў каня пугаю, той замахаў грываю—і паляцелі сані. Загойкаў ад радасьці Гарась... А маці засталася каля варот, схіліўшы галаву. І аб чым яна думала тады?

Праз некальбі хвілін яэды хлопцы пад'ехалі выганам к хаце Нічыпара.

Пакінулі за вуглом каня, далі ляму сена. У сенцах Гарась падцісную порс і адкашляуся. А Андрэя затрымала Кацл.

— Ну,—спытаў Андрэй,—ты можа гаварыла з бацькам.

— Ой, і не кажы. Як даведаўся, што ты прыдзеш, стаў крычаць, матку пабіў...

— А ты... хочаш ісьці?

— Я-ж казала табе ўчора...

І Андрэй нагнуўся, нешта шапнуў так ціха дзяўчыне, што Гарась не дачуў.

Увайшлі ў хату разам. На прывітаньне Нічыпар не адказаў, толькі з печы буркнуў голас Нічыпарыхі. Ад няёмкасьці хлопцы селі на лаўку без запросін...

Гарась ведаў, што сват павінен быць вясёлым, разгаворчывым, а не, дык і сват—ня сват. Але як тут дагадзіць Нічыпару?

Перш ён думаў узяць жартамі: пахлопаў па кішэні, дзе ляжала бутэлька самагону, і падміргнуў Андрэю. Тут Нічыпар яшчэ больш нахмурыўся, адвярнуўся ў другі бок.

— Ну, як, дзядзька Нічыпар, пажываеш?

І ўжо засьмяяўся і хацеў пахлопаць яго па плячы, але-ж сьцяміў у самы час...

Гарась вадзіў па хаце вачыма, хацеў знайсьці яскравую прычэпку для гутаркі. Пад палом ляжаў цэлы груд бульбы.

— «Загавару пра бульбу гэту акаянную»,—рашыў і ён.

І загаварыў:

— Як у вас бульбы сёлета—шмат урадзілася?—ізноў ніхто не адказваў і Гарась губіў ужо вартасьць свата.

— А ў нас, дык памерзла... гнілая, трасца на яе...

Адказала з печы Нічыпарыха:

— Ня так шмат, але трохі накапалі.

Узрадаваны Гарась заерзаў на лаўцы.

— От-жа й я пра гэта... пра бульбу... Не ўрадзілася, значыць, і ў вас...

— А навошта бульба табе?—нарэшце выказаўся хмуры Нічыпар і пашчыпаў пальцамі рэдзенькую сівую бародку.—Ці-ж ты аб ёй клапоцішся?

— Дзядзька Нічыпар, я-ж і кажу, што бульба ў гаспадарцы, калі яна не памерзьне, прыбытак вялікі...

— А калі памерзьне?—запытаў Нічыпар, каб зьбіць з панталыку хлапца, і стаў вытрасаць самасейку.

— Правільна. Што правільна, тое ня грэх. Калі памерзьне, тады ўжо толькі сьвіней карміць. Салодкай робіца... Закуры, дзядзька, маёй махоркі.

Нічыпар мож-б і ня ўзяў, але акурат самасейкі не хапіла. Ён моўчкі ўзяў і закурыў. Тады ў яго на сэрцы як-бы адлягло, і ён папрыязьнейшу запытаў у Гарася, калі той пойдзе рэзаць дровы ў казну, бо і ён сам хацеў-бы хоць некалькі дзён пахадзіць—зарабіць грошай. Гарась абяцаў узяць у сваю кампанію, што пойдзе на тым тыдні.

Прышла ў хату Кацл і села каля Андэя. Шэптам гаварылі між сабою.

Гарась паставіў на стол кварту адгону.

— Што, дзядзька, можа вып'ем?

— Нічога ня выйдзе,—прабурчэў Нічыпар.

— Чаму-ж так?

— Сказана—ня выйдзе. Не аддам Кацы. Вунь за яе сватаюцца не такія, як вы галаштаньнікі. Багачы.

— Што там багачы... Ста юе гэта, дзядзька.

Тады Нічыпар абурыўся.

— А як-жа ён будзе жыць, га? Конь ды карова. Ня буду піць...

— А жывуць-жа неяк людзі,—падала з печы свой сумны голас Нічыпарыха.

— А калі яна сама згодна?

— Усё роўна ня выйдзе. Ці я дзеля таго расьціў яе? Усё пановаму хочаце, трасца вашай матары!

— Ты-б лежа, тата, ня крычаў, бо яны прышлі, як і ўсе добрыя людзі,—упрашвала дачка.

— Ага,—дык ты за іх. Вон з маёй хаты! Каб твайго і сьледу тут ня было, распусьніца.

Нічыпар кінуўся к дачцы і стаў тармашыць яе. Нічыпараха кінулася ўпрашваць разлаванага бацьку, а Гарась трымаў яго за рукі...

Кацл накінула на плечы кажух і спалоханая выскачыла за дзьверы (ведала, калі бацька пачне біць, дык не пашкадуе). Андрэй у сенцах да яе:

— Ня бойся, Каця!—і ўзяўшы за руку,—хадзем са мною.

Пасадзіў яе на сані, сьпебануў лейцамі каня...

У хаце падняўся гвалт. Кумельгам выкаціўся адтуль Гарась, дагнаў на дарозе і з размаху паваліўся на сані. Запыхаўшыся, крыкнуў:

— Гэй, гані, не дагоніць! Чорт пабяры, самагон забыў на стале. Але пяхай стары з гора пажывіцца.

Ноч цёмная. Адна дарога відвеесцца белая, як палатном ўваслацная. Конь бяжыць шпарка. А Гарась яшчэ больш гнаў.

Андрэй абняў Кацю і трымаў, каб ня валіцца. І яму здавалася, што нікому не аддаў-бы яе зараз. У прасторах, у подскаках саней чулася раздольнае, шырокае...

— Ты ня будзеш сумаваць па сваёй хаце?—у самае вуха шаптаў.

— Ну, от-жа... Кахаеш мяне?

— Дужа... дужа.

І зялёныя, і сінія, і чорныя—каляровыя ночы—расстаўляюцца ў маладосьці...

Вось яны ўвайшлі ў хату. Маці чакала сына і не гасіла лямпы. Сын скінуў шапку і сказаў:

— Маці, я прывёз сабе маладуху.

— А божа-ж мой,—ускрыкнула яна,—як-жа гэта?

І пачула маці нядобрае. Пагледзела на сына і на маладуху. Потым уздыхнула, пагладзіла нявесткіну руку і ветла папрасіла:

— Садзіся, Каця!

Усе маўчалі. Доўга маўчалі. Бо зьявілася нешта і раптам парушыла ўсё жыцьцё. І, здавалася, будуць увесь век маўчаць...

Знайшоўся адзін Гарась: ён дастаў з паліцы гармонік, прыгнуў да яго галаву і заграў; перш ціха, потым усё мацней. І граў ён, быццам, для самога сябе, і разам думка была: разьвесяліць гэтых людзей. Звонкія гукі прыпягнулі да вокан дзяўчат і хлапцоў. Потым усе прышлі ў хату.

А Гарась прыпяваў, тупаў нагамі, ківаў і закідваў назад галаву.

Людзі паскакалі, нагаманілі і разышліся.

— Рад за цябе, братка мой, няправа рад,—сьмяяўся Гарась, вышаў з хаты разам з другімі, не перастаючы граць на вуліцы—такі ўжо характар у чалавека.

Пагаварыла новая сям'я пра гаспадарскае, і маці са старымі касьцямі палезла на печ, а маладуха слала пасьцелю...

І думала старая аб сваёй маладой нявестцы і аб сыну—аб іх абодвых—і аб тым, як знаходзяць людзі адзін другога. Думала старая і запамятала аб шчасьці маладых.

А яно прышло ў тую ноч і непрыкметна пасялілася ў кутку. І будзе яно да тых пор, пакуль самі людзі яго не выганяць, як няпрошаную госьцю...

Так яно...

ПАЎЛЮК ТРУС.

# ЯК ПАЖОЎКНУЦЬ ЛІСТЫ *).

*Як пажоўкнуць лісты,*
*Адцьвітуць за акном,*
*Як пагаснуць халодныя зоры...—*
*Тады прыдзе Яна,*
*Што пакляўся даўно,*
*І са мной ад душы пагаворыць*

*Прыдзе ўвечар адна,*
*Прыдзе ў шэлесьце сноў,*
*На парозе пастукае ў дзьверы.*
*І барвовасьць красы,*
*Дум цярновы вянок*
*Прынясе ў адзінокі мой церам*

*Дзьверы сам адчыню,*
*Месяц зойдзе ў пакой,—*
*Сустракацьмем далёкую госьцю!..*
*...Ціха гасьне сьвяча,*
*На душы супакой,—*
*Неяк радасна й сумна чагосьці.*

*Мы прыходзім у сьвет,*
*Каб уславіць яго,—*
*Усё аддаць за жыцьцё і змаганьне!*

*Зоры ў сэрцы маім*
*Зацяплілі агонь,*
*І сагрэлі хвіліны маўчаньня.*

*Я стаю ля вакна,*
*Клёны жураца ў сьне,*
*Сьцені рукі прасьцерлі на плечы.*
*...Сёньня прыдзе Яна,*
*завітае ка мне*
*У гэты ціхі зажураны вечар.*

*Будзе радасьць цьвісьці*
*Каляровасьцю руж,*
*Струны ўроняць маўклівыя ўсхліпы.*
*І ў апошні мо 'раз*
*Хтосьці скажа—даруй!..*
*І заплачуць асеньнія скрыпкі.*

*Гэты плач навальніц.*
*Гнеў глыбокай цішы—*
*Чары—казкі мэлёдый адвечны.*

*Я ў грудзёх затаю,*
*Каб душой перажыць,*
*А ці ўславіць сымфоніяй—вечносьць.*

*Мы прыходзім у сьвет,*
*Каб уславіць яго;—*
*Усё аддаць за жыцьцё і змаганьне!*

*Зоры зноўку ў душы*
*Зацяплілі агонь,*
*Зноўку хвілі тугі і маўчаньня.*

*Ноч фіранку зьняла*
*Беласьнежнай рукой,*
*Дзесьці скрыпкі нямеюць у долях.*

*Ня прыходзіць ніхто,*
*Толькі думы са мной*
*Быццам лебедзі ўвечар на хвалях.*

*Той-жа ціхі пакой,*
*Я сяджу за сталом;*
*Прад вачыма разгорнуты Гётэ.*
*Я пазбыўся трывог,*
*На душы супакой,*
*І паволі зьнікае самотнасьць.*

*Змрокі чэзнуць, як дым,*
*Сьцені ўпалі ля ног,*
*Іх разьвеяў плашчом Мэфістофель.*
*...Сёньня-ж прыдзе Яна!..*

*. . . . .*

*Адчыняе акно,*
*Мне знаёмы ўсьміхаецца профіль.*

*Клёны сыплюць на дол*
*Кроплі-пацеркі сьлёз,*
*Ноч губляе ў красе павалоку.*
*Хтосьці ціха ўзмахнуў*
*Белай пасмаю кос,*
*І замерлі нясьмелыя крокі.*

*Хтосьці лёгкай хадой*
*Адышоў ад вакна,*
*І пастукаўся ў дзьверы ізноўку.*
*Дзьверы я адчыніў.*
*Уваходзіць Яна*
*У кволых строях чарнявага шоўку.*

*Вочы—*
*ўсьмешкі вясны,*
*Думы—*
*гоман крыніц;*
*Льну палойкі—*
*бялявыя косы.*

*Зоры-зьнічкі ў душы,*
*У сэрцы іскры—агні;*
*І такая чароўная постаць!..*
*— Я прышла прывітаць*
*Гэны сёньнешні дзень,*
*Залатыя шумлівыя нівы...*

*Я прынесла дары—*
*Кветкі сьветлых надзей,*
*Я разьвею тугу і маўклівасьць!..*
*Я—*
*Мадонна красы,*
*Ты—*
*Поэта-тварэц;*

*Я—*
*Эмблема жыцьця*
*й прыгодасьці...*
*Я прышла да цябе,*
*Каб душою гарэць,*
*Каб уславіць парыў маладосьці.*

*О, як хочацца жыць,*
*Упівацца красой,*
*У моц краіны мне хочацца верыць!..*
*...І бясшумнай хадой*
*Адышла і нібы сон,*
*Прычыніла кляновыя дзьверы.*

*Той-жа ціхі пакой.*
*Я сяджу за сталом,*
*Прад вачыма разгорнуты Гётэ.*
*...Ноч губляе ключы,*
*Лебядзіным крылом*
*Адганяе тугу і самотнасьць.*

*) З кнігі вершаў „Дзяўчыны“.

---

М. НІКАНОВІЧ.

# ЗАКЛЯТАЕ ШЧАСЬЦЕ.

*(Урывак з роману).*

I.

Адвячоркам, на старой бярозе крычаў крумкач.

Чамусьці вышла так, што ад самога паўдня пазьляталіся на мокры ад халоднага і дробнага дажджу і ўжо зусім пусты агарод вароны, і тады-ж, увесь час, на старой, ужо чорна-разгэтай бярозе, пад сьвіст і стогны рэзка-халоднага ветру—нудна-працяжна і жудасна-злавесна крычаў крумкач

Ад гэтага крыку, ад выцьця ветру і жорсткага дажджу, рабілася да прыкрасьці нудна і адначасова-ж усплывала напаверх уяўленьня пачуцьцё, што вот нечага такога вельмі-ж патрэбнага і таму самага важнага ў жыцьці сёньнешняга дню якраз і не хапае і ніхто ня дасьць яго ды і знайсьці немагчыма.

Такое вось пачуцьцё было ў Адама, калі ён у чорных і прэлых анучах, вялізнымі лапцямі хадзіў па гразкаму двару і, старанна абыходзячы сінія і мутныя лужы, прыслухоўваўся да крыкаў крумкача і час-ад-часу спыняў свой погляд на чорных ад сырасьці і старасьці бярвеньнях суседняга хлява ці глядзеў сваімі разумна-шэрымі (з залатымі стрэламі ў іх) вачыма цераз пустыя агароды ў мутна-шэрыя далі.

Яму рабілася нудна і яшчэ ад цяжкага адчуваньня і гэтакіх-жа думак

# Пра бурапенныя хвалі.

### У паветры неспакойна.

Пачалося даўно. Ну, так, прымерна, ад нараджэньня Узвышша. Гісторыкі можа і будуць дакопвацца: хто быў закройшчыкам і з якога «Торжка» ён паходзіў. Хваліць бога іх у сёньнешнім «Маладняку» не бракуе. Напрыклад, Баркоўскі даўно ўжо купіў новыя спэцыяльныя акуляры, каб разглядзець усю мікробіотыку гэтага неспакою.

А звычайны народ, дык ён проста натуе зьявішча так, як яно кідаецца яму ў вочы.

Дык вось не пасьпеў вышэйпамянёны народжаны ступіць на першы сход лесак, у паветры стала неспакойна, неспакойна не таму, што нехта нарадзіўся ды хоча хадзіць, не, я проста паказваю на гэты момант, як на печку, ад якое пачынаюцца танцы. Ну, але давайце крышку адсунемся далей.

У 1926 годзе ў паветры было неспакойна: узьнятыя нейкім віхрам насіліся пялёсткі, кляновыя завеі, кветкі з чужых палёў, проста нейкая веянь, а недзе залацілася рунь і ракам паўзло белае шчасьце.

Хтосьці выйшаў у поле і гукаў вясну.

Хтосьці чакаў нейкага пробліску.

Праблісьнула.

Пробліск!—крычыць нехта.

— Пробліск!—адказала некалькі галасоў.

— Жывем?

— Жывем! Эй! ты маладняковец! Бачыце, вунь пайшоў, маладняковец, ха, ха, ха!

Але пробліск застаецца пробліскам—блісьнула і зьнікла.

Ды каб-жа блісьнула, а то... так нешта, ну, але будзем лічыць, што блісьнула.

Праходзіць час, кляновыя лісты асядалі на Узвышшы, пялёсткі падалі на залаты пакос Маладняка. Вясну гукалі, стоячы на маладняко̆ўскіх гонях, але ў паветры было неспакойна.

### Адстаўка старога ўраду.

> Я ня знаю, што рабіць,
> Ці пакінуць, ці любіць?
> (з песьні).

І сапраўды, што павінна было
рабіць ЦБ?
Рэдагуй зборнік і абавязкова прапусьці—раз.
Заплаці ганарар так, як у Маскве
Маякоўскаму,—два.
Купі капялюш і бацінкі «джымі»
—тры.
Дай стыпэндыю—чатыры.
Чаму ў Фрыца не даюць напавер
піва?—пяць.
Пазыч крыху грошай—шэсьць.
І пайшло ты ЦБ к ліхай долі
—сем.

— Быць па сему!—сказала ЦБ і вынесла пастанову: няхай жыве «Маладняк". Мы целам пакідаем, а духам будзем наведваць Вас. Забірай, братва, усю маемасьць! І першым прыёмшчыкам быў Мурашка, які вацарыўся на часта пуставаўшым Дударовым крэсьле. Ён сеў, як стаўленьнік старога ўраду.

Але ў паветры неспакойна.

### «Дварцовы" пераварот і дыктатар Мурашка.

Сядзіць гэта Мурашка і бачыць, што ўлады няма, што народ будзіць і што разбушаваўшыся можа перакуліць яго крэсла.

Падумаў гэта ён і кажа сам сабе:

„Даў калісьці я стрэл начны, давай бухну яшчэ днём. Мала што старое ЦБ само пайшло ў адстаўку, а мы ўсё-такі будзем яго скідаць.

— Тава-ры-шы! нас пакінулі, у нас здрада,—казаў ён на другі дзень масам,—але мала што яны пакінулі, мы павінны іх скінуць, павайсковаму скінуць. Я, як былы палітрук энскае роты, энскага палка, павінен сказаць: Таварышы! У бой! Ура!

— Ура!—адказала маса.

Пачалі скідаць.

— Пішы, Барашка,—кажа Мурашка,—а я старшыня.

— Абвяшчаем, што ўсе генэралы...

— Якія генэралы?—пытае Вішнеўская.

— Ты, баба, і ў вайсковых справах нічога не разумееш,—адказаў Мурашка.

— Тут не вайсковыя, а літаратурныя справы.

— Тут пераварот, а дзе пераварот, там і генэралы. А генэралы бываюць розныя—ад інфантэрыі, кавалерыі, артылерыі.

— Цяпер-жа няма генэралаў,—спужана шаптаў Шушкевіч.

— Ну, а вобраз іх заўстаўся, вобразам мы можам крыць?

— А, вобразам? Вобразам можна.

... Пастанаўляем: скінуць вас і замест вас пасадзіць нас.

— Правільна!

— Правільна!

— Выбіраем часовы ўрад.

— Хто за Мурашку? Аднагалосна.

— Хто за Барашку? Таксама і г. д.

— Часовы ўрад ёсьць. Брацішкі мае!—трымаў заключную прамову Мурашка,—але яго перабіў Мардвілка:

— Які шчасьлівы дзень! Мы знайшлі тое, чаго ніхто ніколі ня знойдзе, бо мо' ніхто ніколі нічога і ня згубіў, але ўсё роўна. Я скончыў.

— Брацішкі мае,—казаў далей Мурашка.—Эх, як шкода, што я ня прыехаў сюды раней, але нічога, будзьце спакойны, што пакуль я тут, мы ў лужу ня сядзем і ідэалёгія не падмокне!

### Адно пэнсне і вялікі акт.

Часовы ўрад успомніў пра Пробліск. На жаль, ад яго засталося адно толькі пэнснэ. Трэба было забраць і гэта. Але аказалася, што ня так гэта проста. Паўстала пытаньне: хто да каго павінен ісьці? Хто каго будзе прымаць? Нарэшце вырашылі быць цьвёрдымі да канца, нікому ні да кога ня ісьці, нікому нікога ня прымаць, а выйсьці ў поле і спаткацца, як роўны з роўным.

Невядома, мо яны ў поле і не хадзілі, мо' спаткаліся дзе на Савецкай вуліцы, але акт, вялікі акт быў утвораны.

І сказаў тады Пробліск: «Перашкод няма. Дзьверы адчынены. Стукацца ня буду. Я іду. Вітайце мяне!»

Адказаў Маладняк: Вітаю, вітаю і яшчэ раз вітаю!

Кляшторны з гэтае прычыны выпіў чуток нарзану.

### Устаноўчы зьезд з камунальным півам.

Маладняк рыхтаваўся да ўстаноўчага зьезду, а Літкамуна запасалася півам.

І нічога дзіўнага. Здаецца уся дэлегацыя Полацкае Зямлі была добрым сваяком Камуне. Былі добрыя знаёмыя і ў другіх дэлегацыях. Ну, а хіба дрэнна пачаставаць незнаёмага? Гэта-ж проста далікатна!

У кулуарах зьезду ішлі гарачыя спрэчкі на розныя тэмы і, здаецца, асабліва цікавіліся пытаньнем вуніі з Масквою. А так, наогул, адчувалася, што часовы ўрад з дыктатарам скінуць. І такі скінулі.

Але гэта што? Магло быць горш. Мог распаўзьціся ўвесь зьезд. Частка-ж на хвалях піва ўплыла ў камуну. Але мусіць Маладняк і не шкадаваў, бо што возьмеш з чалавека, які, стукаючы кулаком па стале, крычыць: кожная мая страфа эпоху стварае!

Хто-ж будзе прэм'ерам? У кулуарах называлі розныя імёны і, здаецца, нават Шукайлу. Нарэшце выбралі сталага чалавека—Ліманоўскага, які „благапалучна" кіруе да сёньнешняга гістарычнага дню. Вы чуеце, ён камандуе:

— Зважай! Маладняк ідзе!

**Васіль Базылёвых.**

